


Марэк Матля, Славік Раманюк і Мірэк Ахрымюк — прадшкольнікі падрыхтоўчай групы школы ў Вульцы Выганоўскай. Яны прыходзяць у школу з вёскі Паўлінава, за 2,5 км. Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 50 (1218) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 14.XII.1980 г.

**М. Кузьмін**

# ЦІКАВАСЦЬ

Бег па вёсцы сабачка Антоха. Раптам бачыць: новы плот. Зялёны-зялёны. На ім — паперка. На паперцы літары. Зацікавіўся Антошка, пачаў чытаць. Чытаў, чытаў, так і не прачытаў, бо чытаць не ўмеў. Ён жа ж быў яшчэ малады, нявопытны.

Сеў Антошка на зямлю і пачаў брахаць. На шум прыбеглі знаёмыя: певень Гоша і коцік Макс.

— Што за шум? — пытаюцца. — Хулігана злавіў?

— Гаў! — адказвае сабачка. — Хулігана я пакуль што не злавіў. Заўтра злаўлю, хай толькі пакажацца.

— Дык чаго ж ты сёння брэшаш?

— А вось бачыце плот...

— Бачым, — кажуць знаёмыя. — Прыгожы плот. Ну і што?

— Там наверсе паперка, бачыце?

— Паперка. Бачым. Ну і што?

— На паперцы словы намаляваны, — кажа Антошка-сабачка. — Я хачу прачытаць, а ў мяне нічога не выходзіць. Крыўдна!

Прыгледзеліся Гоша і Макс — усё правільна. Вісіць запіска, у ёй нешта сказана, а што — невядома. І сапраўды крыўдна.

Антошка-сабачка кажа:

— Галоўнае, што яны на нешта смачнае падобныя, тыя літаркі. Можа, гэта аб'ява, што нешта даюць. Гаў, гаў!

— Каб у мяне акуляры былі, — мяўкнуў коцік Макс.

— Ко-ко-ко, пэўна! — разышоўся Гоша. — У акулярах і я зразумеў бы.

А сабака ім на тое:

— Хітрыя якія! У акулярах кожны ўмее. Вы так спрабуйце. Ну хто?

І тады коцік Макс скочыў на плот і палез па дошчачках, каб зблізку паглядзець на літары. Але і там, наверсе, нічога яму не ўдалося, як ні круціўся. Злез коцік уніз і кажа:

— Кепска напісана. Не па-нашаму.

Тут Гоша-певень чытаць узяўся.

— Пагляджу, — кажа, — з іншага боку. Можа адтуль будзе больш зразумела.

Ён пралез паміж штыкетамі, патупаў там для важнасці, адным вокам глядзеў, другім глядзеў. Потым вярнуўся да сяброў і кажа:

— Ку-ка-рэ-курам на смех! Нават я не прачытаў. Вядома, і з таго боку не па-нашаму напісана.

— Эх! — уздыхнуў Антошка-сабачка.

Побач якраз свіння Мар'я ішла. Даведалася ў чым справа і кажа:

— Уверх глядзець я пакуль што не ўмею, але гэта нічога. Зараз павалю плот і адразу прачытаю запіску. Пусціце.

Сказала яна так і штурхнула плот сваім тоўстым бокам. Штурхнула раз — нічога. Штурхнула два — нічога. І на трэці раз — зноў

→



нічога. Моцна пастаўлены плот. Як быў, так і стаіць.

— Гаў, — засумаваў Антошка-сабачка, — не будзе ласункаў...

— А можа там пра малако, — кажа Макс.

— А па-мойму, — кажа певень Гоша, — там напісана пра пірог, і яго трэба з'есці.

Прабягаў побач па траве жучок Коля. Пачуў ён спрэчку, умяшаўся.

— Пачакайце! Не шуміце! Зараз я пабягу, вам прачытаю.

І паімчаўся па дошчачцы наверх. Але пакуль ён бег, усе згубілі яго з віду — зялёнага на зялёным. А потым і забыліся пра яго, таму што ўбачылі вераб'я Пецю.

— Эй, Пеця! — пачалі клікаць. — Ляці сюды, справа ёсць. Ты, Пеця, пад школьным дахам жывеш. Ты, Пеця, верабей вучоны.

(Працяг на стар. 8)

**Тамара Каламіец**

## Дзівакі

Быў за марамі чалавек
Па прозвішчу Рагеллі.
Еў мёд з цыбуляй цэлы век
І з перцам — карамелі.

Заўжды па вуліцы гуляў
Ён дагары нагамі.
Калі з двара сабак ганяў,
Дык кідаў пірагамі.

А за гарамі быў дзівак
Па прозвішчу Рагацці.
Ён рачкаваў, няйначай рак,
Па сенцах і па хаце.

Як спаў — на ложак ногі клаў,
А галаву — падпеччу.
Ён на цягнік білет купляў,
А сам — па рэйках пешшу.

І вось прыехалі на торг
Рагеллі і Рагацці:
На чапяле вярхом — з-за гор,
З-за мора — на лапаце.

Наперад задам — з двух бакоў —
Сышліся між народу:
Рагеллі — з бутляй пірагоў,
Рагацці — з сеткай мёду.

Сказаў Рагеллі:
— Во дзівак!
Адкуль ты гэткі ўзяўся?

Сказаў Рагацці:
— Як-ніяк,
А не ў цябе я ўдаўся!

— Ха-ха! — Рагеллі рагатаў.
— Хо-хо! — Рагацці следам.
А ўвесь народ аж прысядаў
Ад рогату ў сяле тым.

Не бачыў свет такіх дзівос.
Ад смеху ўпала неба.
Што, што? Ці жартам, ці ўсур'ёз?
Не верыце — не трэба.

**Пераклаў з украінскай мовы**
**Ніл Гілевіч**



**Н. Анікеева**

# СТАРЫ ДОМ ПАД СОСНАМІ

Нізенькая брамка, скрыпнуўшы, павольна зачынілася. Бабуля лёгенька падштурхнула Лёльку да драўлянага ганка. Лёлька скінула з пляча сваю сумку на доўгім паску і спынілася аглядваючыся.

Калі яны з мамай паехалі адсюль у горад, ёй было шэсць гадоў, а цяпер — трынаццаты. З гадамі двор пастарэў і цяпер здаваўся ёй зусім маленькім. Бабуля таксама зрабілася меншай — Лёлька перарасла яе на цэлую галаву.

На ганку з'явіўся дзед. Яна парывіста кінулася да яго, сунулася носам у старэнькую клетчатую кашулю.

— Ну вось, дзеду, дачакаліся. Дачакаліся ўнучку, — праз слёзы прыгаворвала бабуля.

Усе гэтыя гады Лёлька пісала ім пісьмы. Спачатку няўмелым почыркам выводзіла: „Дарагія бабуля і дзядуля!“. Потым літары зрабіліся раўнейшыя, і яна, як здавалася ёй, пачынала ўжо па-даросламу: „Дарагія мае!“

Яе пісьмы — ад першага да апошняга, — перавязаныя чырвонай стужачкай, ляжалі ў скрыні старога куфэрка.

Лёльку паклалі спаць на тапчане, старым і смешным, як многія рэчы ў гэтым доме. Прыціснуўшыся шчакой да халоднай дэрмы, яна слухала, як павольна і лянiва тыкае на сцяне гадзіннік. Недзе ў суседнім двары брахалі сабакі, а пад падлогай шаматала мыш. Усе гэтыя гукі былі ёй вельмі знаёмыя.

На наступную раніцу Лёлька прачнулася рана — дома яна ніколі так не прачыналася. З кухні пахла свежыма піражкамі.

Час мінаў незаўважна. Кожную раніцу, выйшаўшы на ганак, Лёлька адчувала радасць. У садзе на развесістых яблынях даспявалі аблыкі. За садам — векапомна дрэмаў сасновы лес.

У тым горадзе, дзе яны жылі з мамай, ёй часта сніліся стройныя, залацістыя сасновыя ствалы. Цяпер ёй было зразумела, адкуль ішлі тыя сны, яна ж нарадзілася ў малой драўлянай хатцы пад соснамі.

Сябраваць тут Лёльцы не было з кім. Дарэчы, і ў горадзе Лёлька па-сапраўднаму ні з кім не сябравала. Жылі яны ўдваіх з мамай, а ва ўсіх яе школьных сябровак былі яшчэ брацікі, сястрычкі, бабулі, дзядулі. І таты. Лёлька пра сябе здзіўлялася, як можна ўсіх іх адколькава любіць так, як яна любіць сваю маму.

Лёлька сябравала з мамай, а ад аднагодкаў сваіх адсоўвалася. Яны здаваліся ёй маладзей за яе. А калі зусім шчыра, яна пабойвалася іх жаласці.

Праз тыдзень ад мамы прыйшлі два пісьмы: адно для Лёлькі, другое — для бабулі. Мама пісала, што вельмі сумуе, і што, магчыма, ёй удасца вырвацца на некалькі дзён, прыехаць па дачку.

— Ну вось, — крыўдавала бабуля, — чакалі, чакалі, і дачакаліся. Не паспела прыехаць — ужо ад'язджае... Абяцалі да канца канікул... — І яна прыклала да вачэй падол фартуха.

Дзед маўчаў.

Позна вечарам ужо ў ложку Лёлька пачула размову з суседняга пакоя:

— Пусціла дзіця раз на шэсць гадоў, — шаптаў бабулін голас. — Але ж і склалася ў іх жыццё! Ды ў чым жа ж мы вінаватыя?

— Не выйшла, — дадаў дзед, — з чаго там мела скласціся. Сын жа ж наш. Значыць і мы вінаватыя. Адны слёзы, з-за яго яна ўсё кінула...

Бабуля нічога не адказала, а праз мінуту працягвала сваё:

— Баіцца, як бы Лёлька з бацькам не сустрэлася. Так проста і піша: „Зрабіце ўсё магчымае, каб не сустрэліся“. А чаму, пытаюся?

— Добра, спі, яе справа, яна дачку выхоўвае. Быў бы бацька як бацька, сам даўно яе наведаў бы. За ўсе гэтыя гады хоць бы ліст дачцы напісаў, — злосна бурчаў дзед.



Лёльцы не спалася. Было адзінока. Да прыезду сюды яна не задумвалася, чаму ў яе няма бацькі. Пісем ад яго ніколі яны з мамай не атрымлівалі. Праўда, віншавальныя паштоўкі да дня нараджэння прыходзілі, падпісаныя: „Дзядуля, бабуля, тата“. Мама чытала іх і ўздыхала. А Лёлька не разумела, як змудрыліся старыя знайсці тату — яны ж жылі без яго.

Бацька з'явіўся нечакана, праз некалькі дзён. Адразу ад парога незадаволена спытаў: „Чаму раней не далі знаць, што дачка прыехала?“ Дзед зірнуў на бабулю: „Паведаміла ўсё-такі.“ Бабуля адвярнулася да акна.

Бацька падышоў да Лёлькі, прытуліў яе да сябе і пацалаваў: „Вітай, дачка!“ Лёлька пацягнулася да яго, адказала: „Вітай, тата!“ І тут жа здзівілася, як лёгка прагучала незнаёмае для яе слова.

— Ну, якая вырасла. Вылітая матка, а вочы — мае!

Лёлька глядзела на высокага, худаватага, незнаёмага ёй чалавека, у яго вялікія цёмныя вочы, як у яе, і не магла зразумець, што з ёй: крыўдна — не, прыемна — таксама не, нялоўкасці — і той не было. Было — ніяк.

Бабуля накрывала на стол. Потым, за сталом, гаварылі аб надвор'і, аб падзеях у свеце, аб здароўі. Дзед больш маўчаў. Бацька гаварыў без перапынку.

Лёлька бачыла, як у бацькі пачалі блішчэць вочы, як ён п'янеў, гаварыў моцна жэстыкулюючы...

І раптам яна ўспомніла гэты пакой са старым куфэркам і пеўнікамі — цацкамі. Успомніла нецвярозы мужчынскі голас, мамін плач і сябе — маленькую, запалоханую. Зрабілася страшна, як тады, вельмі даўно, так даўно, што здавалася, што гэтага і не было.

Дзед устаў ад стала: „Замоўкні, хопіць, дзіцяці пасароміўся б“.

— А чаго мне сароміцца, — выкрыкнуў бацька, — я праўду лю-

*(Працяг на стар. 7)*




## ДЗЯКУЮ ЗА ЎВАГУ

Калі б вас цяпер спыталі: „Як вы думаеце, што трэба ўмець у вашым узросце?“, вы напэўна б кінулі ўсе свае справы і, не задумваючыся, адказалі: „Многае!“

— Чытаць і пісаць трэба ўмець.

— На каньках катацца...

— Раўнанні рашаць...

Але я ўпэўнены, што ніхто не ўспомніў бы пра ўменне паводзіць сябе.

„А што гэта такое?“ — запытаюць у мяне забіякі, манюкі і выскачкі. А вось што гэта такое. Умець сябе паводзіць — значыць, быць такім, каб кожнаму было глядзець на цябе прыемна, гуляць з табой весела і сябраваць цікава.

Давайце пачнем з таго, як вы вітаецеся. Дарэчы, я сам з вамі не прывітаўся. „Добры дзень, паважаныя! Даруйце, папраўлюся!“ Вось так. Я сам аднойчы бачыў, як адзін пяцікласнік раніцай вітаўся каля школы з другім пяцікласнікам. Ён дагнаў яго ля дзвярэй, пацягнуў па спіне сумкай, падбіў нагой яго шапку і, схапіўшы за нос, крыкнуў у вуха: „Здарова, карова!“ Дык ведаеце, ад такога прывітання чалавек можа на другі год застацца.

А здароўкацца людзі ўмелі ўжо з незапамятных часоў. Яшчэ ў каменным веку чалавек працягваў другому чалавеку раскрытую далонь, каб паказаць, што ў ёй няма каменя. Вось і вы вітайцеся звычайна. Падайце руку і скажыце „Вітаю“. Гэта ж проста. Вядома, руку падаваць таксама трэба з розумам. Бо я ведаю аднаго вучня, які, спазніўшыся на дваццаць хвілін на ўрок, першы падаваў руку настаўніку.

Адзін мой знаёмы, які аб’ездзіў паўсвета, расказваў мне. Ён бачыў, як у Афрыцы ў некаторых плямёнах вітаюцца насамі, як у Аўстраліі абарыгены вітаюцца, танцуючы адзін перад другім, а індзейцы кладуць руку адзін другому на плячо... Але ён нідзе не бачыў, каб віталіся так незвычайна, як некаторыя нашы школьнікі.

Тое, што на ўроках трэба сябе добра паводзіць, ведае кожны. Але што гэта значыць? Вось я, напрыклад, з дзяцінства не цярпеў выскачак. Быў адзін у нас такі. Настаўнік яшчэ толькі пачынае гаварыць: „Хто ведае, у якім годзе...“ А гэты ўжо ўскаквае: „Я ведаю“. І аднойчы наша хімічка ў канцы ўрока раптам кажа: „Ну, а хто з вас можа...“ Ён ускочыў і крычыць: „Я магу.“ А настаўніца працягвае: „...пасля ўрокаў застацца і прабіркі перамыць“?

**Паводле Я. Харэчкі**



*(Працяг са стар. 5)*

# СТАРЫ ДОМ ПАД СОСНАМІ

блю і жыву так, як мне хочацца, а не як яе матцы. Няхай ведае! Кнігі чытала, грошы дадому прыносіла... А мне напляваць! — і ён стукнуў кулаком па стале.

Лёлька падскочыла. Праз выступіўшыя слёзы яна ўбачыла, як расплываецца, знікае злы твар чужога ёй чалавека.

Адчула сябе здрадніцай, быццам пакрыўдзіла маму нечакана сарваўшымся кароткім і незразумелым словам — „тата".

Раніцай яна выслала маме кароткую тэлеграму: „Прыязджай, засумавала. Лёлька."

Маці прыехала праз некалькі дзён. Лёльцы было непрыемна за дзедку з бабкай, якія вінавата глядзелі на маму. Але аб бацьку і словам ніхто не абмовіўся.

Бабуля пакавала рэчы. Дзед паспешна распытваў маму аб працы.

Ужо развітваючыся ля брамкі, Лёлька азірнулася і ўбачыла, якімі бездапаможнымі старымі былі двор, драўляны дом і бабуля з дзядулем. Бабуля ўсхліпвала.

— Ты не гневайся, даруй нам, — ціха сказаў дзед, звяртаючыся ні то да яе, ні то да мамы. Лёлька моўчкі прыціснулася да яго і падумала: „Як цяжка быць дарослым!"



**Урок фізічнага выхавання ў школе ў Трасцянцы.**

**Фота В. Рудчыка.**

*(Працяг са стар. 3)*

## ЦІКАВАСЦЬ

Вось скажы нам, калі ласка, што за літары на паперцы намалёваны? Якія словы выходзяць?

Пеця паляцеў і адразу ўсё зразумеў. А калі зразумеў, дык пачаў рагатаць да ўпаду. Нават на спіну паваліўся ад смеху. І крычыць:

— Ой, памерці можна! Гляньце вы на сябе! Ой-ей, на каго падобныя?!

Паглядзелі сябры адзін на другога, бачаць — і праўда ой-ей-ей! У коціка Макса поўсць на брушку зялёная. У Гошы ўсе крылы ў зялёным. У свінні Мар'і палосы па баках. І стаіць яна, як зялёная зебра, якіх не бывае на свеце. А верабей Пецька яшчэ і падсмяваецца:

— Грамацеі! Чытачы! Брудасы! Сказаць вам, што напісана?

Але „чытачам“ гэта ўжо не было патрэбна. Яны зразумелі ўсё без вучонага вераб'я. Ім адмыцца цяпер неяк трэба — вось клопат.

Ну а вы? Вы здагадаліся, што было напісана на плоце? Можа, „Асцярожна! Свежа памалявана!“?

### ЗАГАДКІ

Па зямлі не хаджу і на неба не гляджу. *(Шчупак)*

Шэравата, зубавата, па полі лятае, цялят і авечак шукае. *(Воўк.)*

Па сенцах ходзіць, у хату не ідзе. *(Дзверы).*

З барадой, а не дзед, з рагамі, а не бык, дояць, а не карова, лыка дзярэ, а лапцяў не пляце. *(Каза)*

Сяджу на ім, не ведаю на кім, знаёмага стрэчу, саскочу, прывечу. *(Шапка).*

## АДГАДАНКА



**Разрэжце прамавугольнік на чатыры роўныя часткі так, каб у кожнай з іх было па адным яблыку, грыбку, грушцы, кветачцы, вінаграднай галінцы, морквіне, рэпцы і гарбузе.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**